№ 12(36)
Чэрвень 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Сябры смуткуюць...

# Трагедыя на Нямізе

## Берагі летапіснае ракі зноў залітыя крывёю...

*Не забывай, што 30 траўня, не жадаючы гэтага, мы забілі тут ні ў чым не вінаватых людзей.*

(надпіс на сьцяне падземнага пераходу на станцыі метро "Няміга" у Мінску)

Афіцыйныя ўлады сьцьвярджаюць, што ў трагедыі, якая адбылася на Нямізе 30 траўня, вінаватая стыхія — дождж. У неверагоднай штурханіне і ціскаціне ў падземным пераходзе на станцыі метро "Няміга" загінула больш за 50 чалавек, якія прыйшлі на сьвята, прысьвечанае 2-годзьдзю з дня заснаваньня радыёстанцыі "Мір". Адначасова з гэтым тытунёвая кампанія "Магна" праводзіла свой "супермарафон" — "Пачні лета з Магнай". За 10 крышачак ад пачкаў цыгарэт "Магна" падлеткам, многім з якіх ня споўнілася 18, налівалі бясплатны куфаль піва. У гэты дзень увесь праваслаўны сьвет адзначаў адно з найвялікшых рэлігійных сьвятаў — Сёмуху. У саборы насупраць месца трагедыі ў гэты дзень правіў службу Мітрапаліт Філарэт.

Большасьць відавочцаў лічыць, што трагедыю маглі б прадухіліць праваахоўныя органы — падзяліць натоўп на часткі, не пусьціць у метро людзей, якія кінуліся туды хавацца ад раптоўнай навальніцы з градам.

Міліцыя, якая аказалася на месцы трагедыі, не была гатовая аказваць першую медыцынскую дапамогу. Большасьць людзей загінула ад удушша, іх можна было б выратаваць, зрабіўшы своечасова штучнае дыханьне. Падлеткі ратавалі адзін аднаго, як умелі...

Пра тое, што здарылася ў пераходзе, можа расказаць толькі той, хто там быў. Псіхолагі раяць падлеткам забыць на тое, што адбылося на Нямізе, не хадзіць на магілы сяброў і ў той пераход. Але ці можна загадаць сабе забыць тыя страшныя хвіліны...

***Расказвае Саша** (16 гадоў, падземны пераход 2 чэрвеня)*: "Я пад таблеткамі хаджу, спаць не магу. Пра гэтае сьвята я даведаўся па радыё — былі аб'явы. Сьвята пачалося зранку. Пасьля прыехала група "Манга-Манга", прасьпявалі дзьве песьні. Пачаўся дождж. Спачатку маленькі дождж і моцны вецер, пасьля моцны дождж. Усе кінуліся ў метро. Ірваліся туды, ціснулі, думалі, што там проста марудна спускаюцца. Першымі пайшлі ўсе цьвярозыя, а пасьля п'яныя націснулі зьверху. Дыхаць не было чым. Ззаду беглі тыя, хто не разумеў, што тут робіцца. Раптам усе закрычалі:

*(Працяг на стар.4-5)*

## Хроніка

***24 траўня*** **ў Гомелі ў дзіцячым садку № 99 правялі тэсты для дзяцей, у тым ліку і для Францішка Яўсеенка. Хлопчык з дзяцінства размаўляў толькі на беларускай мове. Тэсты праводзіліся ў адсутнасьці маці па-руску. Лагапед Прымакова заявіла, што ня ведае і не жадае ведаць беларускай мовы. Па выніках тэстаў лагапед зрабіла выснову, што хлопчык псіхічна непаўнавартасны (не разумее значэньня некаторых рускіх словаў), і яго накіравалі ў сьпецгрупу для дзяцей з замаруджаным псіхічным разьвіцьцём.**

***28 траўня*** **прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка заявіў, што выбары прэзідэнта 16 мая, якія праводзіла апазіцыя, прафінансавала арганізаваная злачыннасьць і Захад. Яны, па меркаваньні Лукашэнкі, далі на выбары 100 мільёнаў даляраў. Гэтая хлусьня не была пацьверджаная ніякімі фактамі.**

***29 траўня*** **"Малады Фронт" праводзіў прабег па мінскай кальцавой дарозе пад лозунгам "Свабоду палітвязьням!" Нягледзячы на дазвол з Мінгарвыканкаму, Уладзімір Антонаў, Яўген Афнагель, Андрэй Сяргееў былі абвінавачаныя ў парушэньні заканадаўства і дастаўленыя ў гарадзкі аддзел міліцыі. Пазьней затрымалі і кіроўцу аўтамабіля суправаджэньня Сяргея Шынкевіча, якога пазбавілі правоў кіроўцы.**

***У траўні*** **дэпутаты парламенту, якіх прызначыў А.Лукашэнка, увялі ў Крымінальны Кодэкс артыкул 256, які прадугледжвае сур'ёзныя пакараньні для асобаў, што займаюцца перапродажам.**

*(Працяг на стар.6-7)*

# “Справа Мікалуцкага”: былі б людзі, а артыкулы знойдуцца...

11 чэрвеня 1999 г. судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь разгледзела ў закрытым судовым паседжаньні (у памяшканьні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь) крымінальную справу па абвінавачаньні Віктара Янчэўскага (1962 г. н), Рамана Радзікоўскага (1970 г.н.) і Анатоля Гаўрылава (1975 г.н.).

Падсудныя абвінавачваліся ў забойстве старшыні Камітэту Дзяржаўнага Кантролю па Магілёўскай вобласьці Яўгена Мікалуцкага і ў падрыхтоўцы тэракту ў адносінах да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

Падчас сьледства ўся інфармацыя па “справе Мікалуцкага” была таямніцай для шырокага грамадзтва, а сам суд прайшоў за зачыненымі дзьвярыма — на ім не было ні родных падсудных, ні прадстаўнікоў СМІ. Між тым, для людзей застаецца незразумелым: чаму менавіта гэтыя людзі аказаліся на лаве падсудных, у чым іх віна? Для таго, каб стала зразумелай афіцыйная версія, прывядзем фрагменты з пастановы суда.

Яўген Мікалуцкі загінуў 6 кастрычніка 1997 года. У пастанове суда адзначаны наступны ход падзеяў: “Пацярпелая Мікалуцкая засьведчыла, што ў ноч з 5 на 6 кастрычніка чула гукі крокаў, якія даносіліся з тэхнічнага паверху. Каля 8 гадзінаў 6 кастрычніка 1997 году яна з мужам спускалася па лесьвічнай пляцоўцы, і ў гэты час у сьмецьцеправоднай трубе адбыўся выбух, у выніку чаго яна атрымала раненьні, а муж загінуў. Забойства мужа зьвязвае з яго дзяржаўнай дзейнасьцю... Разам з тым, у ходзе папярэдняга сьледства па факту тэрарыстычнага акту ў адносінах да Мікалуцкага Я.П., калі органам сьледства наогул не было вядома пра падрыхтоўку тэракту ў адносінах да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р., Гаўрылаў падрабязна расказаў пра падрыхтоўку дадзенага злачынства.

Так ён паказаў, што вясною 1997 году разам з Янчэўскім і Ткачовым (Валеры Ткачоў — былы супрацоўнік КДБ, які пры нявысьветленых абставінах загінуў у турэмнай камеры) некалькі разоў езьдзіў у г.Мінск і пражываў у кватэры 118 дому 10 па вул. Радужнай у г.Мінску. Пра мэту паездак Ткачоў яму нічога не казаў усе пытаньні абмяркоўваў толькі з Янчэўскім. Па ўказаньні Ткачова ён, Гаўрылаў, з дапамогай сканера рабіў пошук частотаў сувязі супрацоўнікаў службы аховы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ткачоў назіраў з вакна кватэры ў бінокль за праездам картэжу прэзідэнта і слухаў па сканеры перамовы сьпецпадразьдзяленьня ДАІ “Страла”. Янчэўскі заўсёды сыходзіў некуды на ноч і, прыйшоўшы ў кватэру, адгараваўся ў ваньне. Ён бачыў, што Ткачоў з Янчэўскім вечарам кожны раз зьязджалі ў раён пасёлка Дразды і зразумеў, што Янчэўскі там за некім назіраў. Сам жа ён разам з Янчэўскім і Ткачовым выпрабоўвалі падрыхтаваныя Ткачовым дыстанцыйныя сродкі ўзрываньня. Пры гэтых выпрабаваньнях Ткачоў з прыёмнікам дыстанцыйнага прыстасаваньня знаходзіўся ў аўтамашыне каля дома 10 па вул. Радужнай, а ён з Янчэўскім, маючы з сабой перадатчык і радыёстанцыі, хадзілі ў раёне знаходжаньня рэзідэнцыі... Пасьля паездак у г.Мінск ён па просьбе Ткачова ўстанавіў у чамадан тыпу “дыпламат” пульт кіраваньня дадзеным

*(Заканчэньне на стар. 7)*

# Прысуд ня стаў нечаканым

### *Адзін з лідэраў Маладога Фронту Яўген Скочка асуджаны за арганізацыю шэсьця моладзі*

10 чэрвеня ў мінскім гарадзкім судзе пасьля амаль трохтыднёвага разьбіральніцтва нарэшце прагучаў вердыкт «дзяржаўнаму злачынцу» Яўгену Скочку: намесьнік старшыні Маладога Фронту прызнаны вінаватым у арганізацыі «групавых дзеяньняў, якія груба парушылі грамадзкі парадак», і асуджаны на адзін год пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на гэткі ж тэрмін. На працягу году адтэрміноўкі Я.Скочка мусіць адзначацца ў адзьдзеле міліцыі па месцы прапіскі – у Гомелі. Да таго ж, Яўген не павінен парушаць адміністратыўны кодэкс (у перакладзе на нармальную мову – не зьяўляцца ў гэты час на вулічных акцыях апазіцыі).

Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што суду спатрэбілася ажно 20 дзён (з перапынкамі) дзеля таго, каб вынесьці прысуд аднаму з лідэраў мінскай моладзі. Справа Скочкі ніякай складанасьцю не вызначалася. Для яе разгляду магло б хапіць і аднаго кароткага пасяджэньня. Справа ў тым, што Яўген яшчэ два месяцы таму адбыў адміністратыўны арышт паводле арт. 167 КаАП за тыя ж самыя дзеяньні (арганізацыю шэсьця «Беларусь – у Еўропу»). Аднак менавіта за гэта ж яго пазьней абвінавацілі ўжо па 186-м артыкуле КК. На незаконнасьць гэтага двайнога пакараньня ўказвала абарона.

Тым ня менш ,Скочка асуджаны. Пры гэтым яго раней шы адміністратыўны арышт... адменены. Такім чынам, беларуская Феміда ў асобе судзьдзі Валерыя Камісарава «здабыла» сабе мажлівасьць двайнога пакараньня за адно і тое ж «парушэньне». Раней шы прысуд Цэнтральнага суда г. Мінска ды знаходжаньне Я.Скочкі на нарах сьпецразьмеркавальніку на Прылуцкай загадана забыць, быццам гэтага і не было.

З паказаньняў сьведак на судзе, у тым ліку і міліцыянтаў, вынікае: падчас праведзенага шэсьця (няхай і несанкцыянаванага) момантаў, небясьпечных для грамадзянаў, не назіралася. Дарэчы, пытаньні выклікае і прадстаўленая сп.Дубавіцкім відэакасета з запісам фрагментаў акцыі. Сам сьведка прызнаў некампетэнтнасьць сябе і сваіх калегаў у відэамантажы ды відэаздымках. Вядомы сярод удзельнікаў вулічных шэсьцяў як «чалавек на бра-невіку» (дзеля таго, што здымае акцыі са сьпецыяльнага мікрааўтобуса), Міхаіл Дубавіцкі адмаўляўся патлумачыць на запыт адваката Сяргея Лепеша, на падставе якога нарматыўнага акту альбо пункту службовай інструкцыі відэаздымкі вядуцца пры поўнай адсутнасьці парушэньняў з боку ўдзельнікаў акцыяў. «Што вы мне тут іспыт наладжваеце?» – вось і ўвесь адказ адвакату.

Грамадзкія абаронцы Яўгена Скочкі Гары Паганяйла і Барыс Гюнтэр пыталіся, ці ня лічыць міліцэйскі эксьперт падобныя відэазапісы парушэньнем правоў асобы? На гэта супрацоўнік крымінальнага вышуку нярвова заявіў суду: «Што мы будзем зараз паглыбляцца ў юрыспрудэнцыю?».

Пракурор сп. Чырын, відавочна, разумеючы неабгрунтаванасьць абвінавачваньняў у адрас Скочкі, усё ж запрасіў для падсуднага два гады турмы з адтэрміноўкай на такі ж часу, што фактычна азначае дэпартацыю ў Гомель, дзе жывуць бацькі падсуднага. У выніку, тэрміны былі паменшаныя ўдвая. Хоць, на думку абароны, былі ўсе падставы Я. Скочку ўвогуле апраўдаць.

Але самае цікавае, што падчас гэтага судовага працэсу зьявілася новая форма працы дзяржавы з прадстаўнікамі апазіцыі. На адным з пасяджэньняў былі агучаныя высновы эксьпертаў-псіхолагаў, якія дасьледавалі асобасныя якасьці падсуднага. Згодна з гэтымі высновамі, Яўген Скочка – амбіцыйны, незадаволены сабой і іншымі людзьмі, агрэсіўны. Гэткі «адзінокі воўк», які вечна ачарняе рэчаіснасьць і змагаецца за ўяўную «справядлівасьць». Інакш кажучы, Яўгену быццам бы цяжка наладзіць адносіны з людзьмі. Вось адкуль упартасьць у маладога апазіцыйнага дзеяча, і пры чым тут нейкі патрыятызм?

Дзякуй эксьпертам. У савецкія часы дысідэнтам проста ставілі дыягназ і рабілі гэта ня менш аўтарытэтна. Што да якасьцяў Яўгена, то свае сімпатыі да лідэра моладзі не хавалі нават некаторыя ягоныя апаненты з ліку чынавенства і міліцыі. Калі незадоўга да вынясеньня прысуду я выпадкова сустрэла на вуліцы міліцыянтаў з судовай залы, яны адразу запыталіся ў мяне пра Я. Скочку і ягоны лёс.

Прысуд ня стаў для намесьніка старшыні Маладога Фронту нечаканасьцю. У бліжэйшых планах Яўгена – паступленьне ў Акадэмію мастацтваў на аддзяленьне рэжысуры і працяг удзелу ў палітыцы.

**Тацяна СЬНІТКО**

# Помсьлівасьць і зайздрасьць

**Менавіта гэтыя дзьве рысы характару прэзідэнта Лукашэнкі сталі асноўнымі прычынамі асуджэньня 75-ці гадовага знакамітага старшыні калгасу Васіля Старавойтава**

У камеры Бабруйскай сьледчай турмы сустрэў свой 75-гадовы юбілей Васіль Старавойтаў – двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, былы кіраўнік знакамітай аграпрамысловай гаспадаркі «Расьсьвет» у Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласьці. За два тыдні да дня нараджэньня Васіля Канстанцінавіча, 28 траўня, Кіраўскі раённы суд пасьля паўгадовага разгляду крымінальнай справы Старавойтава вынес прысуд: два гады зьняволеньня ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Па пяць гадоў калоніі атрымалі двое былых намесьнікаў В.Старавойтава: Алег Шапавалаў, які кіраваў у акцыянерным таварыстве «Расьсьвет» рыбнай гаспадаркай, і Аляксей Яўстратаў – былы начальнік транспартнага цэху. Ва ўсіх трох, згодна з прысудам, канфіскаваная маёмасьць. Старавойтаў і ягоныя падначаленыя прызнаныя судовай калегіяй пад старшынствам судзьдзі Надзеі Чмары вінаватымі ва ўчыненьні шэрагу цяжкіх эканамічных злачынстваў.

Зараз, калі пішацца гэты матэрыял, чакаецца, што Васіля Старавойтава восьвось перавядуць са сьледчага ізалятару г. Бабруйска ў калонію УЖ-15/1 у Мінск. Установа па вуліцы Кальварыйскай, вядомая ў народзе як «турма на Апанскага», прымае за свае сьцены ўжо трэцяга асуджанага па паказальнай справе. Менавіта «на Апанскага» сядзеў маладафронтавец Аляксей Шыдлоўскі, а цяпер працягвае адбываць тэрмін дэпутат Вярхоўнага Савету Уладзімір Кудзінаў.

Па словах адваката Васіля Старавойтава Веры Страмкоўскай, зараз магчымасьць умоўна-датэрміновага вызваленьня яе падабароннага захоўваецца. Аднак, як вядома, некалькі эпізодаў крымінальнай справы Кіраўскі суд накіраваў на дадатковае расьсьледаваньне, да сканчэньня якога паводле закону, падаць заяву аб датэрміновым вызваленьні асуджаны Старавойтаў ня можа...

Калі азірнуцца на паўтары гады назад і прааналізаваць справу Старавойтава, становіцца зразумелым яе паказальна-запалохваючы характар. Любы кіраўнік сельскагаспадарчага прадпрыемства, перадавога альбо ледзь жывога калгасу ці саўгасу, пасьля гучнага скандалу з двойчы героем павінен адчуць проста фізічны страх перад сістэмай. Страшна ня толькі мець сваё меркаваньне ці, ня дай Божа, «лезьці ў палітыку» – страшна чым-небудзь наклікаць гнеў усемагутнай улады. Бо калі ўлада распраўляецца з такім вядомым чалавекам як Старавойтаў – што можа чакаць астатніх мясцовых кіраўнікоў? Тым больш у гэткай недасканалай сістэме гаспадараньня ды заблытанасьці законаў, што пануюць цяпер у краіне. Парушэньні законаў зараз можна знайсьці дзе заўгодна, калі, вядома, гаворка не ідзе пра структуру, асабліва набліжаную да людзей з прэзідэнцкай адміністрацыі.

Акрамя прэвентыўнага запалохваньня пэўных слаёў беларускага грамадзтва, у справе Старавойтава адной з прычынаў перасьледу зьяўляецца «чорная» зайздрасьць. Усе журналісты, якія наведалі Кіраўскі раён пасьля паведамленьня аб арышце Васіля Старавойтава (дарэчы, падчас гэтага паведамленьня па радыё адзін з калегаў размаўляў з Васілём Канстанцінавічам у ягоным доме!), адзначалі выключнасьць «Расьсьвету». На канец пазамінулага году гэта была адзіная ў раёне гаспадарка, якая ў тэрмін сплочвала падаткі і нават павялічыла аб'ём вытворчасьці. І адзіным калгасам, дзе толькі двойчы і ненадоўга затрымлівася выплата заробку. Дарэчы, заробак працаўнікі «Расьсьвету» мелі большы, чым іхнія калегі па раёне. Нават па ўсёй Беларусі мала хто з вяскоўцаў жыў гэтаксама ці лепш.




Васіль Старавойтаў, які кіраваў тутэйшай гаспадаркай 30 гадоў, быў вядомым яшчэ пры Савецкім Саюзе чалавекам — у той час, калі прэзідэнт Лукашэнка марна спрабаваў падвысіць надоі ў вёсцы Рыжкавічы, кіруючы сярэдняй рукі саўгасам «Гарадзец» у суседнім раёне. Вывучыўшы за пяць гадоў якасьці характару Лукашэнкі, можна толькі меркаваць, якія пачуцьці той меў, калі дзесьці «на дыване» абласное начальства ставіла яму ў прыклад кіраўніка перадавога «Расьсьвету». Цікава, што і былы абласны партыйны кіраўнік Васіль Лявонаў, які на пасяджэньнях, кажуць, заступаўся за дырэктара саўгаса «Гарадзец», адправіўся за краты амаль адначасова са знакамітым Старавойтавым. Пры помсьлівасьці сярэдняга калгаснага кіраўніка, які стаў прэзідэнтам, гэтыя арышты, а потым спробы «прышыць» Старавойтава і Лявонава ў адну справу выглядаюць як помста.

З самага пачатку справы Старавойтава, калі ўвосень 1997 году была апячатаная маёмасьць яго сям'і і калгаснага праўленьня, пайшлі ў эфір ілжывыя паведамленьні. Паведамлялася пра арышт – а старшыня «Расьсьвету» яшчэ на волі; на ўсю краіну радыё распавядае пра канфіскаваную зброю – і «забываецца» дадаць, што на гэтую зброю гаспадар мае дазвол з міліцыі. Афіцыйна падкрэсьліваецца, што ў зяця Васіля Канстанцінавіча быў адабраны цэлы арсенал зброі – а той пры высьвятленьні абставінаў складаецца з малакаліберный вінтоўкі, пачка патронаў да яе і вучэбнай гранаты!

Такім чынам, ішлі недагаворваньні, а папросту – фальсіфікацыя фактаў. Пры ўсім гэтым апісаньне маёмасьці рабілася незаконна. Пры спробах высьветліць праўду і абараніць правы чалавека ў цэнтральнай вёсцы ЗАТ «Расьсьвет» Мышкавічы было на працягу двух тыдняў затрымана некалькі праваабаронцаў ды журналістаў. Потым адзін з затрыманых, рэдактар газеты «Здравый смысл» І.Каравайчык, пісаў, што такой колькасьці міліцыянтаў, як увосень 1997 г. у Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласьці, ніколі ня бачыў – прынамсі, у правінцыі – і не зьдзівіўся б, калі б у Мышкавічы перадыслакавалі танкавую брыгаду. Настолькі пільна ахоўвалі акалічнасьці «расьсьветаўскай» справы ад грамадзкасьці!

Паралельна з адхіленьнем В. Старавойтава з пасады старшыні ЗАТ «Расьсьвет», арыштам і ўзбуджэньнем супраць яго крымінальнай справы распачаўся перасьлед сваякоў двойчы Героя Працы. Так, на працягу 1998 году былі прыцягнутыя да крымінальнай адказнасьці і асуджаныя на розныя тэрміны дзеці і зяці былога кіраўніка вядомага калгасу. Ім інкрымінаваліся розныя парушэньні: незаконнае захоўваньне зброі, эканамічныя злачынствы, удзел у злачыннай групоўцы Старавойтава... Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя сваякі працавалі ў розных галіновых структурах «Расьсьвету».

У чым канкрэтна абвінавачваецца арыштаваны і пасаджаны ў сьледчы ізалятар Бабруйска В. Старавойтаў, спачатку не паведамлялася. Толькі праз год пасьля арышту, у кастрычніку 1998 году, Генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка на адной з прэс-канферэнцыяў пералічыў журналістам прад'яўленыя В.Старавойтаву абвінавачаньні. Сярод іх, у прыватнасьці, адзначаліся наступныя: крадзяжы шляхам злоўжываньня службовым становішчам па папярэдняй змове з групай асобаў; кантрабанда; арганізацыя прадпрымальніцкай дзейнасьці без дзяржаўнай рэгістрацыі; арганізацыя вытворчасьці і продажу нестандартнай і няякаснай алкагольнай прадукцыі; выманьваньне крэдытаў; заніжэньне даходаў акцыянернага таварыства «Расьсьвет»; незаконнае набыцьцё і захоўваньне агнястрэльнай зброі. Генпракурор таксама агучыў сумы стратаў, быццам бы нанесеных В.Старавойтавым дзяржаве. Фігуравалі лічбы ў мільярды беларускіх рублёў і тысячы амерыканскіх даляраў.

Суд над Васілём Старавойтавым распачаўся ў Кіраўску 30 лістапада мінулага году. Падсуднага, якому тады

(Заканчэньне на стар. 5)

# Трагедыя на Нямізе

(Пачатак на стар. 1)

"На-зад, на-зад!" Я пасярэдзіне быў, перада мною — прыступкі і паласа трупаў, пасьля — жывыя людзі, як селядцы ў бочцы, потым — гара трупаў, далей — людзі, а яшчэ далей — ужо нічога ня бачна. Гэтай трагедыі магло б ня быць, каб міліцыя проста разганяла, разьбівала напалам натоўп, мянты бачылі, што ішла лавіна... А міліцыянты проста сядзелі ў машынах і назіралі... Я ня памятаю, як мне ўдалося выбрацца. З верхніх прыступкаў людзі пачалі сыходзіць, тады паветра пайшло, усе пачалі дыхаць. Перада мною дзьве дзяўчыны стаялі, з якімі я пазнаёміўся на сьвяце. Адна ўжо вочы пачала закатваць. Я ёй кажу: пачакай пяць хвілінаў. Я ня памятаю, як сам выбраўся, але памятаю, як расьцягваў трупы, каб яе вынесьці. Я яшчэ пасьля за другой сяброўкай пабег, вынес. Яе потым у чацьвёртую бальніцу адвезьлі. Кроў, мазгі на прыступках... А наверсе былі людзі, якія яшчэ не зразумелі, што адбылося".

***Расказвае Ігар** (17 гадоў, пераход метро "Няміга", 2 чэрвеня):* "Метро было адчыненае, людзі не праходзілі туды, таму што на прыступках усё было забіта трупамі да столі. Спатыкаліся, падалі адзін на аднаго. Было тры шэрагі: лесьвіца, пасьля — прамежак мёртвых людзей, за ім — людзей жывых... Сам па трупах хадзіў, не было іншага выйсьця: альбо сам труп, альбо ідзеш па трупах. З метро выходзілі людзі, стаялі, глядзелі. Хто мог, той ратаваў. А людзі на лесьвіцы задыхаліся. Я вам скажу, што тое, што абвясьцілі, колькі тут загінула — гэта вельмі мала. Тут намнога больш загінула. Я ўжо другую ноч ня сплю. Людзей выносілі з пераходу і клалі проста ў бруд. Курткай накрывалі твары — і ўсё, пасьля — у мянтоўскі аўтобус. Трагедыю можна было б не дапусьціць, каб тут міліцыя стаяла. Проста ніхто з міліцыі не чакаў, што так будзе. На сьвяце міліцыя была, у асноўным забіралі п'яных. Я быў на сцэне, у конкурсе ўдзельнічаў, атрымаў прыз — 8 шакаладак".

***Расказвае Валеры Новікаў** (23 гады):* "Былі выпадкі марадзёрства. Я сам бачыў. Адбывалася так: памірае дзяўчына, нехта падыходзіць да яе як быццам бы гэта ягоная дзяўчына, а сам рукамі шнарыць па кішэнях. А потым здымае пярсьцёнкі, ланцужкі".

***Расказвае Дзьмітры Арачэўскі** (21 год, студэнт):* "Дзякаваць Богу, на сьвята я прыйшоў адзін. Думаў, з кімнебудзь пазнаёмлюся. Па піва былі вялікія чэргі, таму я перайшоў на другі бок прасьпекта Машэрава і купіў сабе піва ў краме. Там ня толькі піва набывалі, але і гарэлку. На самім сьвяце асаблівых эксцэсаў не было. Але калі я слухаў канцэрт, то за мною стаяла п'яная кампанія — хлопцы блазнавалі і піхаліся. На сьвяце я ўбачыў адну дзяўчыну, якая мне спадабалася. Яна была з сяброўкай. Я пайшоў за імі, думаў, што пазнаёмлюся ў метро. А ў пераходзе ўсе гэта і пачалося. Бачылі, там у пераходзе цяпер надпіс: "апошнія 41 прыступка?" Я не дайшоў да канца, мне заставаліся 17 прыступак. Дзяўчына, з якой я хацеў пазнаёміцца, упала. Яна ляжала ў мяне пад нагамі і нешта казала мне. Ці то "не душы", ці то "дапамажы". Я не зразумеў. Ззаду ціснулі людзі. Я адчуваў, што не магу дыхаць, што задыхаюся. І ў той жа час я разумеў, што калі пачну актыўна рухацца, то магу задушыць дзяўчыну, якая ўпала. Такое было адчуваньне. Я падумаў: калі я ўпаду, мне будзе канец. Я ўтрымаўся на нагах. Мне не хапала паветра. Спачатку ўсе нешта крычалі... Пасьля нехта з мужчынаў дадумаўся крычаць разам па складах: "На-зад, на-зад!" У мяне самога атрымалася крыкнуць толькі некалькі разоў. На большае не хапіла дыханьня. Потым людзі пачалі адступаць, дыхаць стала лягчэй. Я здолеў падняць гэтую дзяўчыну і вынесьці яе наверх. Я яшчэ ня ведаў, што шмат людзей пацярпела... Я паклаў яе на траву, а сам пабег у той бок, дзе было сьвята. Доктара не было, а міліцыянты аказваць першую дапамогу ня ўмелі... Цяпер я вельмі шкадую, што сам ведаў пра першую дапамогу толькі ў тэорыі — штучнае дыханьне і ўсё іншае... Я думаю, што трагедыі гэтай магло і ня быць, калі б метро звонку было ачэпленае міліцыяй. Магло хапіць і дваццаці міліцыянтаў. І яшчэ я думаю, што шмат хто пайшоў у метро не дзеля таго, каб зьехаць дамоў, а каб перачакаць дождж. Таму што калі дождж толькі пачынаўся, то было абвешчана, што канцэрт працягнецца, калі дождж скончыцца. А з дзяўчынай той я так і не пазнаёміўся, яе павезьлі ў бальніцу".

***Расказвае Цімафей** (17 гадоў):* "На прыступках была кроў, мазгі, валяліся сумкі , абутак, дакументы. Але мы асабліва не прыглядаліся, што там было. Трэба было выносіць людзей. А пасьля прыехалі "чорныя бярэты", ачапілі метро. Адзін хлопец падскочыў да іх і пачаў крычаць: "Сабакі, дзе вы раней былі?!" Амапаўцы сталі біць яго дубінкамі".

***Расказвае Таня** ( 15 гадоў).* "Я нічога ня бачыла, я задыхалася. Паветра не было. Там людзі паміралі стоячы. Мая сяброўка Маша таксама ня ўпала, яна памерла стоячы, але я гэтага ня ведала. Калі людзі сталі адыходзіць, я паднялася наверх. Дахаты я дабіралася сама, неяк даехала. Адна. На аўтобусе. Каля адзінаццаці была дома. У мяне таксама траўма... Я ня ведала, не, не, я ня ведала, што Маша загінула. Мы згубіліся. Я глядзела сярод тых, што там ляжалі, але Машы не было. Нас можна было выцягнуць з натоўпу. Але мы не маглі праціць пра гэта. Асабіста я наогул гаварыць не магла, таму што задыхалася, у мяне вочы заплюшчваліся. Ня ведаю, як там іншых ратавалі, але з намі вось так атрымалася, бачыце..."

Таня была на сьвяце і ў пераходзе разам з Машай Іньковай, што загінула. Таня толькі праз некалькі дзён расказала сваёй маці, што з ёй адбылося, калі сталі балець тазавыя косткі — там былі трэшчыны. Адразу пасьля трагедыі казала бацькам Машы Іньковай, якая загінула, што "Маша паехала дамоў на метро". Нягледзячы на моцную псіхалагічную траўму, Таня вымушаная была здаваць школьныя экзамены нароўні з усімі. Школьная адміністрацыя не палічыла патрэбным вызваліць яе, хаця дзяўчына не разумела таго, што напісана ў падручніку. Псіхолаг, які наведаў Таню, пачаў сваю размову з пытаньняў: "З колькіх гадоў п'еш, курыш, гуляеш з хлопцамі?".




*Фрагмент сьцяны памяці ў пераходзе*



*Кальварыйскія могілкі. Бацькі на магіле Машы Іньковай і Насьці Саўко.*

***Расказвае Ганна Іванаўна Інькова** (бабуля Машы Іньковай — разам з маленькай унучкай Кацяй хадзіла ў той дзень на Сёмуху ў царкву, шукала на сьвяце Машу, каб забраць з сабою, але не знайшла...):* " Я кажу: пайшлі Машу пашукаем, Каця. Музыка моцна грала, і там нейкія брытагаловыя танчылі, так што пыл стаяў вышэй іх галоваў. Вакол сядзела моладзь. Я кажу: "Глядзі, Каця, якая прыгожая ў нас моладзь! А яшчэ кажуць — у нас няма будучыні! Паглядзі, якія прыгожыя дзяўчаты, хлопцы!" А тут гляджу: сядзяць і п'юць. Што за п'янка? Сядзелі дзе хто толькі мог. З вялікімі куфлямі піва. Вакол хадзілі бабкі і зьбіралі бутэлькі. Гляджу — пляшкі ад гарэлкі зьбіраюць! Надышла хмара, маланка перасекла неба. Калі б не дзіця, я яшчэ пахадзіла б, пашукала б... Ужо цяпер я думаю, што трэба было б да сцэны падыйсьці, папрасіць, каб аб'явілі. Але там жа не адна Маша была. А палове адзінаццатай мне сын тэлефануе:

— Мама, у цябе Маша?

— Не. Можа, у сяброўкі дзе затрымалася?

— Няма ў сяброўкі, я хадзіў, шукаў.

У тры гадзіны тэлефануюць:

— Машы няма! Машы няма!

— Што вы! Прыйдзе яна...

— Машы няма жывой!"

***Расказвае Лена** (17 гадоў.* 15

 



*чэрвеня, Кальварыйскія могілкі, на магіле Насьці Саўко. Лена разам з Насьцяй была на сьвяце і ў пераходзе)*: " Я была амаль у самым нізе. Да канца лесьвіцы яшчэ было можа пяць прыступак. Там, наперадзе, была нейкая перашкода. Я ня бачыла — што. Але нешта было. Таму што далей было вольна. Мы на сьвята прыйшлі разам з сяброўкай — Насьцяй. Не было нават думкі такой, што нешта можа здарыцца. Разам спускаліся ў пераход. Калі натоўп пабег, мяне пацягнула, а яна там засталася. Я павярнулася, шукала яе вачыма, але яе ня бачыла. Калі я выйшла з пераходу, пачала зноў яе шукаць, але яе нідзе не было. Я нават папрасіла міліцыянера, каб аб'явілі ў мегафон. Яны спачатку ад мяне адмахваліся, казалі, што тут не адна такая, але пасьля ўсё ж абвясьцілі. Мы знайшлі яе толькі ў шэсьць гадзінаў вечара ў панядзелак. Мы шукалі па бальніцах. Я прыехала дамоў, патэлефанавала яе маці, адразу нічога не сказала, проста спытала: дзе яна? Я баялася адразу так вось гаварыць цёці Ані... Пасьля мы ёй сказалі... Цёця Аня добра трымалася. Мы пачалі тэлефанаваць па ўсіх бальніцах. Яшчэ доўга шукалі нумары, таму што даведнікі былі старыя, тэлефанавалі ў "хуткую дапамогу" — прасілі назваць тэлефоны... У дзьве гадзіны ночы званілі ў міліцыю, і нам сказалі, што ў сьпісах загінуўшых яе няма. На наступны дзень я тэлефанавала па нумарах, якія давалі па тэлевізары. Гэтыя тэлефоны не адказвалі. Спачатку нармальны гудок, а пасьля здымаюць і кладуць трубку. А ў міліцыі пачалі адказваць: "Абрыдлі вы са сваёй Саўко!"

А яшчэ адзін адказаў цёці Ані: "Мая дачка на такія мерапрыемствы ня ходзіць, а сядзіць дома!"

Яе знайшлі ў дзесятай бальніцы ў моргу сярод неапазнаных. Спачатку ў морг не пускалі, казалі, каб глядзелі толькі па фотаздымках. На фотаздымках мы Насьцю не пазналі. Цёцю Аню пусьцілі ў морг, і там яна яе пазнала. Мы да апошняга спадзяваліся, што яна ў рэанімацыі і ня памятае свайго імя. Казалі, што ёсьць такія людзі. Я да гэтага часу не магу паверыць, што яе няма..."

На прыступках пераходу, дзе гінулі людзі, ляжаць кветкі. Яны пачалі зьяўляцца тут 31 траўня, адразу пасьля трагедыі. Тут цяпер вельмі шмат маладых людзей, якія страцілі ў пераходзе сваіх сяброў і родных. Гараць сьвечкі, ляжаць вянкі, на сьценах наклееныя фотаздымкі тых, хто загінуў, зробленыя разьвітальныя надпісы. Бацька Машы Іньковай, Міхаіл Іnькоў, скульптар, сьцьвярджае, што пераход станцыі метро "Няміга" павінен ператварыцца ў мемарыял памяці. Для гэтага ён мусіць страціць сваю функцыянальнасьць: нельга, каб кожны дзень людзі ішлі ў метро па прыступках палітых крывёю. Але дзеля таго, каб перакрыць уваход у метро, трэба выкапаць новы, а гэта дорага.

Улады, між тым, усяляк спрабуюць выгнаць з пераходу тых, хто прыходзіць сюды, каб пасумаваць па сваіх родных і сябрах, хочуць прымусіць людзей забыцца на кроў, што тут пралілася.

**П.КАЧАТКОВА**

# Помсьлівасьць і зайздрасьць

*(Пачатак на стар. 3)*

было 74 гады, вазілі на пасяджэньні суда за 30 кіламетраў у металічным фургоне па моцным марозе. Дзеля разгляду справы В.Старавойтава ў судовай зале адмыслова ўсталявалі металічную клетку. Паводле словаў відавочцаў, раней у той жа самай зале судзілі забойцаў і гвалтаўнікоў за простым драўляным бар'ерам. Многія назіральнікі бачаць у гэтай акалічнасьці непрыхаванае імкненьне тых, хто аддае загады і распараджэньні, любым шляхам прынізіць чалавечую годнасьць старога, заслужанага чалавека, ветэрана вайны, які замест кіруючых пасадаў у раённым ці абласным цэнтры ў свой час аддаў перавагу працы на сяле.

Васіль Старавойтаў падчас сьледства не прызнаваў напачатку сваю віну, але потым пачаў прызнаваць яе часткова. Калі ж пачаўся судовы працэс, падсудны выглядаў нездаровым і прасіў даць яму «хаця б прайсьці па сонцы». Відавочна, што дзеля гэтага, каб неяк паскорыць вырашэньне свайго лёсу, Васіль Канстанцінавіч і прызнаваў сябе вінаватым. Ён верыў у справядлівасьць, хоць і асэнсоўваў, як мала шанцаў на яе ў цяперашняй сістэме. У любой краіне з кіраўнікамі кшталту В.Старавойтава ўлады размаўлялі б не на мове крыміналу – наадварот, стварылі б умовы гаспадараньня, бачачы посьпехі, і пераймалі б вопыт такой гаспадаркі як «Расьсьвет».

Пры гэтым сам кіраўнік «Расьсьвету» ніколі ня быў палітычна заангажаваным чалавекам у якім бы то ні было сэнсе. Цікава, што пасьля свайго зьняволеньня Васіль Старавойтаў заявіў пра сувязь крымінальнага перасьледу і чаканай, але не аказанай ім падтрымкі Лукашэнку падчас прэзідэнцкіх выбараў 1994 году.

Абвінаваўчы бок, прадстаўлены магілёўскім пракурорам Аляксандрам Казакевічам, запрасіў для В.Старавойтава пяць гадоў зьняволеньня з канфіскацыяй маёмасьці, а ягоным намесьнікам А.Яўстратаву і А.Шапаваламу – адпаведна па восем і дзесяць гадоў. У апошнім слове Васіль Канстанцінавіч прасіў не пазбаўляць волі яго былых падначаленых, паколькі тыя не былі вольныя ў сваіх дзеяньнях і падпарадкоўваліся яму як кіраўніку. Сам жа ён заўжды хацеў як лепей для людзей і гаспадаркі, заявіў В.Старавойтаў. Ён не вінаваты, што напачатку дзевяностых, пры развале старой калгаснай сістэмы, першаму давялося апрабоўваць метадам памылак і спробаў новыя метады гаспадараньня, пракладаць рынкавыя шляхі. А ў існуючай сістэме працаваць па-новаму без парушэньняў, як лічаць, дарэчы, многія эксьперты, немагчыма. Што казаць, калі ў нашай краіне адзін нарматыўны акт можа супярэчыць другому! А заднім чыслом часта зьяўляецца трэці і чацьвёрты, якія пры ўсім тым мусяць выконвацца...

Перад тым як вынесьці прысуд Васілю Старавойтаву і ягоным намесьнікам па «Расьсьвеце», суд «раіўся» больш за два тыдні – з 13 па 28 траўня. Цікава, што сам тэкст прысуду быў набраны на кампутары, хаця ніводнага кампутара ў будынку Кіраўскага райсуда няма. Затое пры наяўнасьці ксераксу да сярэдзіны чэрвеня адвакату В.Страмкоўскай не выдавалі копію прысуду. Цалкам верагодна, што яго перадрукоўвалі, баючыся магчымага скандалу з-за «нетутэйшага» паходжаньня прысуду. Нагадаем, што В.Старавойтаў прызнаны вінаватым па васьмі пунктах абвінавачаньня (крадзяжы маёмасьці, дача хабару, кантрабанда, схаваньне даходаў, перавышэньне ўлады, злоўжываньне службовым становішчам, выманьваньне крэдытаў). Па чатырох артыкулах Крымінальнага Кодэксу (незаконнае захоўваньне зброі, парушэньне парадку прадпрымальніцкай дзейнасьці, выпуск і продаж няякасных тавараў) абвінавачаньне было прызнанае недаказаным. Яшчэ два эпізоды крымінальнай справы зараз дарасьсьледуюцца пракуратурай. Адзін з іх датычыцца лецішча Старавойтавых у Крыме, а другі – паказаньняў Яўстратава аб выдаткаваньні з калгаснай касы трох тысяч даляраў. Адзін са сьведкаў па справе (а ўсяго было дапытана больш за 300 чалавек) кажа, што частка гэтых грошай пайшла на закупку замкоў, рамаў, дзьвярных ручак і да т.п. для дому самога В.Старавойтава, другую ж частку кіраўнік калгасу даў на рамонт адной з бальніцаў у Магілёве. Дарасьсьледуецца і ўдзел у парушэньнях, у якіх прызнаны вінаватым былы старшыня, прараба Лаўрынавай, якая была сьведкам і наклікала сваімі паказаньнямі крымінальную адказнасьць на ўласную галаву.

Невядома, ці вызваляць усё ж Старавойтава будучай восеньню з-за працягу сьледства па эпізодах справы. Па словах Веры Страмкоўскай, такая магчымасьць захоўваецца. Пакуль жа пераводу ў калонію Мінска павінен пайсьці на карысьць 75-гадоваму вязьню: у адрозьненьні ад закрытай камеры СІЗА, там ветэран і двойчы Герой Працы зможа быць побач з турэмным шпіталем, бачыць сонца на турэмным двары і больш дыхаць хоць ня вольным, але сьвяжэйшым за камернае паветрам.

Як паведаміла адвакат Старавойтава В. Страмкоўская карэспандэнту «ПВ», прысуд уступіў у сілу і бліжэйшым часам будзе абскарджаны ў парадку нагляду.

**Яна ЖДАНОВІЧ**

 

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*1 чэрвеня* быў створаны Грамадзкі камітэт па расьследаваньні прычынаў трагедыі на Нямізе. Ініцыятарамі выступілі выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі і Вінцук Вячорка. Камітэт зрабіў заяву, што адказнасьць за трагедыю 30 траўня нясе рэжым Лукашэнкі. На наступны дзень пасьля стварэньня камітэту ў штаб-кватэры БНФ была адключаная электрычнасьць.

*1 чэрвеня* на месцы трагедыі ў падземным пераходзе станцыі метро "Няміга" некалькі чалавек у цывільным і міліцыянты схапілі дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня П.Знаўца і пацягнулі па той самай лесвіцы, дзе адбылася трагедыя. Спачатку зацягнулі ў міліцэйскі пакой,а потым — у машыну. П. Знаўцу патлумачылі, што супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа за "абразу прэзідэнта".

*1 чэрвеня* ў Брэсьце на помніку вязьням Брэсцкага гета невядомыя намалявалі фашысцкую свастыку. Гэта ня першы выпадак. Кіраўнік цэнтру "Халакост" Аркадзь Бляхер паведаміў, што ў мінулы раз пасьля такога ж здарэньня ў міліцыі заявілі, што, маўляў шкоды помніку не нанесена, і няма чаго ўздымаць шум.

*1 чэрвеня* Брэсцкі абласны суд прызнаў незаконным страйк, які правялі ў красавіку працоўныя Пружанскага аб'яднаньня жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Дваццаць чатыры найбольш актыўныя забастоўшчыкі распараджэньнем адміністрацыі аб'яднаньня пазбаўленыя прэміяльных грошай. Прычынай страйку стаў нізкі заробак – 2 млн. рублёў (прыкладна 5 даляраў ЗША). На гэтыя грошы людзі не маглі пракарміць свае сем'і. У пачатку красавіка 120 працаўнікоў спынілі працу і страйкавалі цэлы тыдзень. Страйк прыпынілі тады, калі адміністрацыя паабяцала падвысіць заробак. Падмануўшы працаўнікоў, кіраўніцтва падало ў суд і выйграла працэс.

*3 чэрвеня* Грамадзкі камітэт па расьследаваньні трагедыі на Нямізе даручыў Праваабарончаму Цэнтру "Вясна-96" стаць працоўным органам камітэту. "Вясна-96" зьвярнулася праз незалежны друк да ўсіх грамадзянаў-сьведак трагедыі дзеля дапамогі.

*4 чэрвеня* пасьля звароту Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" да грамадзянаў з просьбай даць зьвесткі аб тым, што адбывалася пад час трагедыі на Нямізе, невядомыя выразалі кавалак тэлефоннага дроту, што ішоў да офісу "Вясны-96". Толькі праз суткі ўдалося адшукаць прычыну адключэньня тэлефону і аднавіць сувязь.

*7 чэрвеня* ў прамым эфіры па дзяржаўным радыё гучалі паклёпніцкія прамовы пра тое, што быццам бы Малады Фронт "арганізаваў трагедыю" на Нямізе. Чалавек сьцьвярджаў, што сябры БНФ прыйшлі з бутэлькамі гарэлкі і арганізавалі сьмерць людзей. У перадачы гучалі таксама такія прамовы: "Я не разумею, чаму мы дагэтуль церпім гэтую апазіцыю, гэтых Шушкевічаў, Багданкевічаў, Шарэцкіх і іншых, якія перашкаджаюць нам жыць! Усіх іх трэба вешаць! Зьнішчаць! Яны не даюць нашаму прэзідэнту працаваць!" Заклікі да зьнішчэньня апазіцыі гучаць па радыё сістэматычна і арганізуюцца ўладамі дзеля распальваньня ў сьвядомасьці людзей сацыяльнай нянавісьці.

*11 чэрвеня* абвешчаны прысуд тром жыхарам Магілёва, якіх абвінавачвалі ў забойстве Мікалуцкага і падрыхтоўцы замаху на жыцьцё Лукашэнкі. В.Янчэўскі сябе вінаватым не прызнаў, але суд знайшоў ягоную віну даказанай і даў яму 11 гадоў калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці. А.Гаўрылаву давядзецца правесьці за кратамі 5 гадоў. Р.Радзікоўскага суд прызнаў вінаватым па 213-м артыкуле КК, зьвязаным з незаконным захоўваньнем зброі, і прысудзіў яму чатыры гады, але дзякуючы таму, што падсудны "чарнобылец" і патрапляе пад амністыю, Радзікоўскага вызвалілі ў зале суда. Такія "нязпэўныя" прысуды ўскосна сьведчаць пра няўпэўненасьць судзьдзяў у тым, што падсудныя сапраўды зьдзяйсьнялі гэтае злачынства.

*11 чэрвеня* з нагоды 40 годзьдзя дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Уладзіміра Кудзінава Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" разам з прадстаўнікамі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі і Хартыяй-97 наладзіў пікет у абарону правоў палітвязьняў. У ім бралі ўдзел С.Шарэцкі, В.Ганчар, супрацоўнікі і сябры "Вясны-96".

*14 чэрвеня* Мінскі гарадзкі суд вынес прысуд намесьніку старшыні Маладога Фронту Я.Скочку — адзін год калоніі з адтэрміноўкай прысуду на адзін год.

*14 чэрвеня* ў Бабруйску мясцовы гарвыканкам забараніў пікет супраць СНІДу, які ладзіла суполка "Грамадзянскага форуму".

*14 чэрвеня* зранку больш за тысячу рабочых аднаго з буйнейшых заводаў Магілёва — МаАЗу пачалі працоўны дзень не каля станкоў, а на плошчы каля прахадной заводу. Астатнія тры з паловай тысячы рабочых падтрымалі страйк – сталі каля станкоў, але працу не пачыналі. Прычына страйку – нявыплата заробку за красавік і травень. Кіраўніцтва да абеду выканала большасьць патрабаваньняў і нават апісала службовыя аўтамабілі для продажу, каб выплаціць рабочым заробак.

*15 чэрвеня* Мінгарвыканкам адмовіў у правядзеньні мітынгу і шэсьця пад дэвізам "Не – вайне, фашызму і дыктатуры!". Акцыі былі прымеркаваныя да гадавіны нападу фашысцкай Германіі на СССР. Заяўку падавалі БНФ, АГП, БСДП(НГ).

*15 чэрвеня* намесьнік міністра аховы здароўя Беларусі Валеры Філонаў заявіў, што Беларусь ня можа самастойна праводзіць аналізы на выяўленьне ў прадуктах харчаваньня дыяксіну, бо кошт аднаго прыбора – 200 000 даляраў ЗША.

*15 чэрвеня* прафсаюз прадпрымальнікаў Віцебска часова спыніў страйк, у якім бралі ўдзел 900 членаў прафсаюзу. Гэта адбылося пасьля таго, як улады задаволілі іхнія патрабаваньні пад гарантыю намесьніка старшыні аблвыканкама М.Федарчука.

*У чэрвені* — ліберальна-дэмакратычная партыя, якая брала ўдзел у выбарах у мясцовыя саветы, вядзе шэраг судовых працэсаў у судах розных гарадоў Беларусі па прызнаньні вынікаў выбараў несапраўднымі.

*У чэрвені* Саюз палякаў Беларусі ініцыяраваў судовы працэс у абарону правоў дзяцей, якія хочуць вучыцца на польскай мове. Навагradзкі райвыканкам прыняў рашэньне аб нямэтазгоднасьці адкрыцьця ў горадзе першых класаў з польскай мовай навучаньня і будаўніцтва польскамоўнай школы. Менавіта гэтае рашэньне Саюз палякаў і абскардзіў у судзе. Судзьдзя Навагradзкага суда Васіль Аляхновіч "прызнаў зыск неправамерным".

*18 чэрвеня* ў будынку суда Цэнтральнага раёну г. Гомеля пачаўся працэс па крымінальнай справе старшыні гомельскага адзьдзяленьня БХК Яўгена Мурашкі. Ён абвінавачваўся па арт. 196.1 КК РБ (парушэньне парадку арганізацыі і правядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацыяў). Крымінальная справа была ўзбуджаная старэйшым пракурорам адзьдзелу агульнага нагляду пракуратуры Гомельскай вобласьці І.Хіжанок 11 сакавіка за тое, што 11 лютага ў памяшканьні вучэбна-метадычнага цэнтру Я.Мурашка нібыта арганізаваў сустрэчу са старшынёй ЦВК РБ Віктарам Ганчаром. Артыкул 196.1 выкарыстоўваецца пасьля мераў адміністратыўнага ўзьдзеяньня. Перад гэтым Я. Мурашка двойчы прыцягваўся да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167.1 ч.2 КаАП РБ (парушэньне арганізатарам парадку правядзеньня масавых мерапрыемстваў). Справа ў тым, што на працягу гэтага году Мурашка падаў каля сарака заяваў у Гомельскі гарвыканкам дзеля дазволу на правядзеньне пікетаў на праваабарончыя тэмы. Гарвыканкам альбо забараняў правядзеньне мерапрыемстваў цалкам, альбо пераносіў іх правядзеньне ў месцы, непрыдатныя для гэтага (у парк на ўскрайку гораду ці інш.). Менавіта з-за гэтага Я. Мурашка быў вымушаны праводзіць несанкцыянаваныя пікеты. Так, 19 кастрычніка 1998г. Я.Мурашка праводзіў несанкцыянаваны пікет каля будынку гомельскага выканаўчага камітэту. За гэта ён быў аштрафаваны на 7 млн. рублёў. Трэба адзначыць, што Я. Мурашка зьяўляецца беспрацоўным і мае чацьвёра дзяцей, дваіх з якіх ня так даўно ўсынавіў. Ня маючы сродкаў на выплату штрафу, Мурашка вырашыў прадаць на рынку свой плакат, з якім ён выходзіў на пікеты. 7 лістапада 1998 г. ён прыйшоў на гарадзкі рынак, дзе намагаўся прадаць плакат, каб аплаціць папярэдні адміністратыўны штраф ў памеры 7 млн. рублёў. Супрацоўнікі міліцыі расцанілі гэта як арганізацыю несанкцыянаванага пікету, нават нягледзячы на тое, што Мурашка меў квіток аб аплаце гандлёвага месца. За гэты выпадак на рынку Я.Мурашка быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 167.1 ч.2 КаАП РБ і атрымаў дзесяць дзён адміністратыўнага арышту. Наступным крокам рэпрэсіўных дзеяньняў уладаў адносна Я.Мурашкі стала ўзбуджэньне крымінальнай справы. 11 лютага г.г. у будынку вучэбна-метадычнага цэнтру адбываўся даўно запланаваны семінар БХК на праваабарончыя тэмы. На ім прысутнічаў Віктар Ганчар, які знаходзіўся ў гэты час у Гомелі. Як засьведчылі на судзе У. Удавенка, М. Лашук і інш. 9 і 10 лютага Мурашка па справах знаходзіўся ў г.Калінкавічы і не прымаў удзелу ў арганізацыі гэтага мерапрыемства. Гэта таксама пацьвярджалася і дазволам на арэнду памяшканьня, падпісанай ад імя арандатараў

У.Удавенкам. У семінары Я.Мурашка прымаў удзел як звычайны ўдзельнік, аднак меў неасьцярожнасьць сесьці побач з Ганчаром за адзін стол. Менавіта на гэтым і засяродзіў сваю ўвагу начальнік Цэнтральнага РАУС г. Гомеля А.Салаўёў. Ніякіх папярэджаньняў пра тое, што гэта несанкцыянаваны сход, з яго боку ў той дзень не было. Больш за тое, супрацоўнікі міліцыі ня склалі ніякіх пратаколаў на ўдзельнікаў сходу, як гэтага патрабуе арт. 167.1 КаАП РБ. Аднак на судзе А.Салаўёў рэзка памяняў свае паказаньні і заявіў, што ён адразу папярэдзіў прысутных аб тым, што іх дзеяньні незаконныя, і што, калі Мурашка сядзеў за адным сталом з В.Ганчаром, значыць, ён зьяўляецца арганізатарам сходу. Судзьдзя Кострыкаў не прыняў да ведама паказаньні іншых сьведкаў і довады грамадзкіх абаронцаў "Вясны-96" В.Стэфановіча і А.Бяляцкага, прадстаўніка БХК А.Фёдарава і адваката, якія прасілі спыніць справу з-за адсутнасьці складу злачынства ў дзеяньнях падсуднага. Суд прызнаў Мурашку вінаватым і прысудзіў яму ўмоўнае пазбаўленьне волі на 1 год з адтэрміноўкай прысуду на год. Адвакат Я.Мурашкі зьбіраецца абскарджваць прысуд і падаць касацыйную скаргу ў Гомельскі абласны суд.

*23 чэрвеня* ў Мінску ў кавярні "Маладзік" адбылося пасяджэньне дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Некалькі разоў міліцыянты спрабавалі вывесьці дэпутатаў з кавярні, каб перашкодзіць пасяджэньню. Урэшце некалькі дзесяткаў АМАПаўцаў вывелі дэпутатаў на вуліцу, а дэпутата В.Шчукіна чацьвёра міліцыянтаў выносілі з залы на руках. Прычына гэткіх дзеяньняў міліцыянтаў — быццам бы неабходнасьць абясшкодзіць знойдзеную ў памяшканьні бомбу. Але супрацоўнікаў кавярні, дзе нібыта магла ўзарвацца бомба, з памяшканьня не выдалялі.

*23 чэрвеня* ўтвораны грамадзкі "Камітэт за свабоду Чыгіру і Беларусі". Мэта камітэту – дамагчыся вызваленьня палітвязьняў М.Чыгіра, А.Клімава, В.Кудзінава.

*У чэрвені* старшыня Саюза пісьменьнікаў Беларусі У. Някляеў выехаў у Польшчу, адкуль паведаміў, што ў Беларусі супраць яго ўлады рыхтавалі правакацыі і зьбіраліся пасадзіць яго ў турму. Таму ён вымушаны пакінуць Беларусь. Някляеў заявіў таксама, што неаднаразова спрабаваў наладзіць кантакты з уладамі дзеля адраджэньня беларускай культуры, аднак упэўніўся, што вышэйшыя чыноўнікі ненавідзяць беларускую культуру і мову.

# "Справа Мікалуцкага": Былі б людзі, а артыкулы знойдуцца...

*(Пачатак на стар. 2)*

дыстанцыйным прыстасаваньнем і сумесна з Ткачовым на вул. К.Маркса г.Магілёва вызначыў дальнасьць яго дзейнасьці. Разумеў, што яно неабходна В.Ткачову для выбуху. Затым В.Ткачоў даў яму для вывучэньня кнігу "Руководство по подрывным работам" і праз некаторы час папрасіў зрабіць разьлік колькасьці выбуховага рэчыва, неабходнага для выбуху водаправоднай трубы ў палатне аўтадарогі. Свае паказаньні ён пацьвердзіў на вочнай стаўцы з В.Янчэўскім з удзелам іх абаронцаў.

Дадзеную кнігу ў часовае карыстаньне даваў Р.Радзікоўскі.



Раман Радзікоўскі ў офісе "Вясны-96" пасьля вызваленьня (на заднім плане — Тамара Янчэўская).

Пры вобыску па месцы жыхарства А.Гаўрылава знойдзены аркуш з рукапісным тэкстам у выглядзе малюнка і матэматычных формулаў. А.Гаўрылаў з гэтай нагоды патлумачыў, што на дадзеным аркушы ён па просьбе Ткачова зрабіў разьлік колькасьці выбуховага рэчыва, неабходнага для ўтварэньня варонкі дыяметрам 2 м пры закладцы зарада ў вадаправодную трубу, якая праходзіць пад дарожным пакрыцьцём на глыбіні 1м. Даведаўшыся, колькі спатрэбіцца ўзрыўчаткі, В.Ткачоў сказаў, што для такой справы ён знойдзе ўзрыўчаткі столькі, колькі трэба.

Пры аглядзе ўчастка мясцовасьці, які вядзе ад КПП дзяржаўнага дачнага комплексу "Дразды" да перакрыжаваньня з праспектам Машэрава, сапраўды выяўленыя дзьве вадаправодныя трубы, у тым ліку адна дыяметрам 80 см на глыбіні каля 1 метра. Якіх-небудзь прыстасаваньняў, якія перашкаджалі б трапіць у яе, не было.

Згодна паказаньняў сьведкі Ляжэнкі (старэйшага ўпаўнаважанага Упраўленьня па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю), падчас размовы з А.Гарылавым той паведаміў, што тэракт супраць прэзідэнта Рэспублікі Беларусь планавалася ажыцьцявіць пасьля атрыманьня пэўнай сумы грошай.

Крымінальная справа ў адносінах да В.Ткачова спыненая ў сувязі з яго сьмерцю.

Р. Радзікоўскі абвінавачваўся ў продажы В.Ткачову вясной 1997 году пісталета "Маўзер" і перадачы кнігі па падрыхтоўцы выбухаў, з дапамогай якой, паводле афіцыйнай версіі А.Гаўрылаў разьлічыў колькасьць выбуховага рэчыва для тэракту ў адносінах да Я. Мікалуцкага.

Стала вядома, што падчас сьледства былі выкарыстаныя недазволеныя метады вядзеньня допыту (з дапамогай псіхатропных сродкаў) і катаваньні. Пра гэта заявіў на судовым паседжаньні Анатоль Гаўрылаў. Ён сказаў, што пра падрыхтоўку тэрактаў і падзеі ў Мінску яму стала вядома са словаў сьледчага Ляжэнкі. Анатоль Гаўрылаў сьцьвярджаў, што ён даваў паказаньні на папярэднім сьледстве са словаў Ляжэнкі, які біў яго нагой, каб ён даваў неабходныя Ляжэнку паказаньні. Суд не прыняў словы Анатоля Гаўрылава да ўвагі. Судовая калегія ацаніла іх "як надуманыя А.Гаўрылавым з мэтай пазьбегнуць адказнасьці за зьдзейсьненае".

Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь асудзіла:

*Янчэўскага Віктара* да 11 (адзінаццаці) гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці і адбываньнем пакараньня ў калоніі строгага рэжыму.

*Гаўрылава Анатоля* да 5 (пяці) гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці з адбываньнем пакараньня ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

*Радзікоўскага Рамана* да 4 (чатырох) гадоў пазбаўленьня волі. Але на падставе п. 8 арт.1 і арт.12 Закону Рэспублікі Беларусь ад 18 студзеня 1999г. "Аб амністыі некаторых катэгорыяў асобаў, зьдзейсьніўшых злачынства", Р.Радзікоўскага вызвалілі ад прызначанага пакараньня са зьняцьцем судзімасьці. Р. Радзікоўскага вызвалілі з-пад варты ў зале суда.

Пасьля вызваленьня Раман Радзікоўскі са сваёй нявесткай Натальляй Дзяжурнай прыйшлі ў офіс Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96", каб сказаць дзякуй за аказаную дапамогу. Разам з імі прыйшла і Тамара Янчэўская — маці Віктара Янчэўскага. Раман Радзікоўскі сказаў: "Згод-на з законам, я ведаў, што павінны быць апраўданы і вызвалены, але практыка і рэаліі сёньняшняга дня часта прымушаюць людзей сумнявацца ў вынясеньні справядлівага прысуду. Тым ня менш, атрымалася так, што мяне ўсё ж такі вызвалілі, і ў дадзеным выпадку можна сказаць, што судзьдзя разабраўся ў сутнасьці справы..."

Маці Віктара Янчэўскага ўпэўненая ў тым, што яе сын невінаваты, і ягонае зьняволеньне і прысуд зьяўляюцца вынікам зьбегу недарэчных і трагічных абставінаў. Яна лічыць прысуд у адносінах да В.Янчэўскага "страшэннай несправядлівасьцю". "Я ўсё ж думала, што сумленьне чалавечае — вышэй за ўсё. Але, па ўсёй верагоднасьці судзьдзя паслухаўся голасу зьверху. Як яму сказалі, так ён і паступіў. Я хачу зьвярнуцца праз газеты (ня ведаю, якія згодныя будуць надрукаваць) да Лукашэнкі, таму што на гэтым я не спынюся. Гэты прысуд — мана, фабрыкацыя, вымысел".

Ці будзе "справа Мікалуцкага" мець працяг? Бо "заказчык" забойства старшыні Камітэту Дзяржаўнага Кантролю так і ня быў названы на судзе. Прамы ўдзел падсудных у гэтым забойстве таксама ня быў даказаны ў ходзе сьледства. В.Янчэўскі і А.Гаўрылаў вінаватымі сябе не прызналі.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

У сярэдзіне лістапада ў нашую камеру быў пасаджаны зэк, у якога “паехаў дах”. Папаўся ён на тым, што залез у кандытарскі цэх і еў там тарты, аж пакуль не прыехала міліцыя. З ягоным зьяўленьнем у нас пачалі зьнікаць некаторыя рэчы, і калі гэтага вязьня (дарэчы, ён быў рускі, з Санкт-Пецярбургу) злавілі за руку падчас крадзяжу, то я ўпершыню ўбачыў “суд” над зэкам, які праштрафіўся. Ягоны матрас кінулі на бятонную падлогу, і адгэтуль ён спаў пад “барам”, невялічкаю шафаю на сьцяне. Да таго ж, каб больш не сьвярбела красьці, ягоную правую руку паклалі на “абшчак” (так на “фені” завецца стол) і жалезным кубкам, які мне перадалі з дому, доўга білі з усяе моцы па пальцах, пакуль яны не апухлі ад пабояў. З гэтага выпадку я зрабіў яшчэ адну важную выснову: “У турме – нічога чужога браць нельга!” Прычым, ня тое што красьці, а нават проста браць пакарыстацца, хай нават на пяць хвілінаў.

Дваццаць пятага лістапада, калі сышлі тры месяцы майго знаходжаньня пад вартаю, зноў прыходзіла адвакат і паведамляла, што хутка павінны выклікаць на этап, каб “закрыць справу”: гэта значыць, перададуць яе ў суд. Пасьля гэтага, магчыма, я буду вызвалены пад падпіску аб нявыезьдзе. Чакаць выкліку давялося доўга. Толькі дзесятага сьнежня нас з В.Лабковічам загрузілі ў аўтазэк і павезьлі ў накірунку Стоўбцаў.

Як я даведаўся пасьля, гэта выпадкова супала з прабегам “Жодзіна-Мінск-Стоўбцы”, які ладзіў Малады Фронт. Праз пару гадзінаў пасьля таго, як мяне прывезьлі ў Стоўбцы, там зьявіліся маладафронтаўцы. У Стаўбцоўскім РАУСе пра гэтую акцыю ня ведалі нічога, і таму па трывозе была ўзьнятая вайсковая частка і ўсе міліцэйскія патрулі. Яны баяліся, што ІЧУ будуць браць штурмам, і на ўсялякі выпадак узялі яго пад узмоцненую ахову.

Прыкладна ў той жа час да маіх бацькоў прыязджаў Павел Шарамет, які жадаў сустрэць мяне вызваленага, і нават прывёз падарунак на маё дзевятнаццацігодзьдзе — файны каляровы тэлевізар. Але... справа ў сьледчага ня клеілася, і ён вырашыў правесьці вочную стаўку.

Такім чынам, я з вока на вока застаўся з чалавекам, які фактычна пасадзіў мяне – пажарнікам Валерыям Ільюшыным. Я адразу ж зрабіў сустрэчны напад: паведаміў сьледчаму пра тое, як В.Ільюшын вымагаў у мяне грошы за сваё “маўчаньне” і папрасіў узбудзіць супраць яго крымінальную справу. Для сьведкі гэта было шокам, бо сесьці на лаву падсудных разам са мною ў ягоныя планы ніяк не ўваходзіла. Ён пачаў блытацца ў паказаньнях і скардзіцца на дрэнную памяць. Акцыя сьледчага з вочнаю стаўкай праваліласа. Зразумела, улады не дапусьцілі б, каб спадара Ільюшына, які праявіў такую ласку да іх — здаў у міліцыю двух бэнээфаўцаў — судзілі. Спаслаўшыся на недахоп доказаў, справу супраць яго не ўзбудзілі, але за тое ён пачаў даваць тыя паказаньні, якія трэба было мець сьледчаму, каб даказаць маю “віну”.

Яшчэ два тыдні нас з В.Лабковічам трымалі ў Стоўбцах. Узяўся моцны мароз, і “аўтазэкі” проста ня ехалі. Аж да самых каталіцкіх Калядаў я з асалодаю чытаў перададзеныя мне бацькамі газеты і ад'ядаўся перададзенаю хатняй кілбасой. Да таго ж я ведаў, што 27 сьнежня ў Жодзіне мяне чакае перадача, і Новы год можна будзе сустрэць амаль па-сьвяточнаму.

Аднак гэтую радасьць у мяне адабралі. Прыйшоўшая 27 сьнежня на спатканьне маці сказала, што тыя два кілаграмы, перададзеныя ў Стоўбцах – начальнік ІЧУ Шалкевіч залічыў за... 8-мі кілаграмовую перадачу...

Але мяне парадавалі сукамернікі. Яны нават прыгатавалі вялікі торт, дарэчы, як мне падалося, значна смачнейшы за ўсе “фабрычныя” вырабы, якія я раней еў. На торце самаробным крэмам было напісана: “Аляксею – 19”... Між іншым, на момант наступленьня 1999 году ў камеры №12 на 10 месцаў было 29 чалавек...

Тут трэба абавязкова прыгадаць пра такую зьяву сьледчых ізалятараў, як “турэмная пошта”. Камеры ў СІЗА трымаюць між сабою пастаянную сувязь, нягледзячы на тое, што гэта катэгарычна забаронена турэмнай адміністрацыяй. Сувязь можа трымацца як праз “панараму” ( прыбіральню ),так і праз “рэшку” ( вакно камеры ). Для гэтага вырабляецца “конь” — доўгая, метраў на сем вяроўка са швэдару аднаго з вязьняў. Гэткі ж “конь” вырабляецца і ў суседняй камеры. Калі сувязь трымаецца праз “панараму”, то да канцоў вяровак прывязваюцца “грузы” з хлебнага мякішу і гэты “конь” звычайным спосабам змываецца ва ўнітаз. Другі канец вяроўкі “сувязны” трымае ў руках. У агульнай трубе ўнітаза “коні” двух суседніх камер зблытваюцца і ўтвараецца адзіная “дарога”. Тады да яе прывязваюцца запая-ныя ў цэлафан запіскі ( маляўкі ) і робіцца сігнал — тры ці два ўдары кулаком у сьцяну суседняй камеры. Пасьля сігналу суседзі перацягваюць “каня” да сябе і робяць зваротную працэдуру.

Сувязь праз “рэшку” - прыкладна тое ж, толькі “коні” зблытваюцца ў паветры. Па турэмнай пошце перадаюцца ня толькі запіскі, але і запаяная ў цэлафан заварка гарбаты, цукеркі, нават сала і вядома ж, цыгарэты. Гэта — турэмная салідарнасьць. За ўвесь час майго знаходжаньня ў СІЗА Жодзіна і Мінску я ліставаўся толькі з двумя вязьнямі: Вадзімам Кангуком і Валерыям Буйком.

Так прайшоў Новы Год, надыйшло 15 студзеня, калі нас з В.Лабковічам зноў павезьлі на этап у Стоўбцы. Сьледчы Васіль Сьцяпанавіч Пакін доўга глядзеў у падлогу, а пасьля сказаў, што закрывае справу і перадае яе ў суд. Яшчэ паскардзіўся, што вельмі хацеў адпусьціць нас хоць зараз пад падпіску, але, мауляў, гадзіну таму пачуўся тэлефонны званок з Мінску, і “адзін вялікі чалавек” сказаў яму (цытую): “Я табе... (мат) адпушчу! Сам на іх месца сядзеш!” Гэтым пытаньне было вычарпанае.

Азнаямленьне са справай дазволіла высьветліць некаторыя цікавыя рэчы. Па-першае, на нас з Вадзімам навесілі ўсе характарыстыкі злоснага хуліганцтва, якія толькі існавалі, каб ужо дакладна не праваліць абвінавачаньне. Па-другое, высунуты быў зыск на шэсьць мільёнаў рублёў па коштах лета 1997 году: дзяржава патрабавала вярнуць нанесеныя ёй нашымі "графіці" страты. Відаць, акрамя таго, што за гэтыя грошы былі зафарбаваныя надпісы, яшчэ не адна сям'я начальнікаў прадпрыемстваў пафарбавала і свае хаты. Па-трэцяе, па абвінаваўчым заключэньні на судзе нам з В.Лабковічам трэба было адказваць за злачынства ажно па трох артыкулах Крымінальнага Кодэксу: 201.2(злоснае хуліганцтва); 225.2 (пашкоджаньне помнікаў) і 186 (зьнявага сімволікі). Да суда заставаўся адзін месяц.

Нас зноў адвезьлі ў Жодзіна, але папярэдзілі, што праз 2 тыдні будзе “этап” у Мінск, на “Валадарку”. У апошнія дні знаходжаньня ў кіпцюрах “Чорнага Бусла” давялося яшчэ раз пакаштаваць гумавых палак і пасядзець у камеры з мінусавой тэмпературай. Адзін з вязьняў па неасьцярожнасьці выбіў шкло локцем, і міліцыянты 8 дзён адмаўляліся зашкліць вакно. Па вечарах, калі на вуліцы ўсталёўваўся мароз, у камеры з роту валіла пара – класьціся спаць было проста страшна. Усе баяліся замерзнуць.

Але мяне лёс выцягнуў з гэтага пекла. У ноч з 4 на 5 лютага мне загадалі сабраць рэчы і падрыхтавацца да этапу. Мяне чакаў “сталыпін” на “Валадарку”.

Апошні раз праходзячы пад канвоем па Жодзінскім СІЗА, хацелася сьмяяцца. Я разумеў, што шмат дрэннага яшчэ наперадзе, але разумеў, што і горш ужо ня будзе. Мой апошні “маналог”, які я пакінуў алоўкам на драўлянай лаве камеры-адстойніка, быў такі: “Бывай, Жодзіна! Месца, у якім я правёў амаль 5 месяцаў. Месца, якое я ненавіджу і якое не забуду ніколі. Тут мяне білі і зьдзекаваліся як маглі, але толькі тут я змог зразумець, якая цудоўная рэч жыцьцё, калі яно ідзе на Волі”. Воля,толькі так, толькі з вялікай літары. Навучыцца цаніць яе можна толькі ў зьняволеньні, за кратамі. Тут я стаў дужэйшым маральна, але і здароўя страціў шмат...

Бывай, “Чорны Бусел”! Назаўсёды!..

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 31-34)*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*